• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

20 жніўня 1996 г. аўторак, № 206 (23009)




# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

*ВЫРАТАВАННЕ*

### НЯМА НІЯКІХ СІЛ, НЯМА СРОДКАЎ, КАБ НАРМАЛЬНА ІСНАВАЦЬ

Такі вось лейтматыў большасці лістоў, што атрымала «Звязда» з паметкай «Акцыя «Выратаванне». Пошта, адрасаваная на рэдакцыю і Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля», — з самых далёкіх ад сталіцы куточкаў Беларусі. Агульная колькасць атрыманых лістоў — больш як 300. Але акцыя па адпраўцы дзяцей на аздараўленне за мяжу працягваецца. «Звязда» і БДФ «Дзецям Чарнобыля» чакаюць вашых лістоў.

Цяпер што датычыць канкрэтных рашэнняў, дзеянняў. Сто дзяцей у рамках акцыі «Выратаванне» адпачылі або яшчэ адпачываюць у розных краінах Еўропы. Усяго ж дапамога аказана (а гэта і выдзяленне грашовых сродкаў, і набыццё неабходных лекаў) 150 сем'ям.

«Выратаванне» па-ранейшаму застаецца адным з найважнейшых нашых клопатаў. Пішыце!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*УРАДЖАЙ-96*

### У рэспубліцы ўжо ўбраны зернебабовыя з 61,6 працэнта засеяных плошчаў

**Паводле апошніх даных, атрыманых карэспандэнтам «Звязды» ў штабе па ўборцы, які дзейнічае пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, у рэспубліцы ўжо ўбраны зернебабовыя з 1.581,6 тысячы гектараў, што складае 61,6 працэнта ад засеяных плошчаў.**

Сярэднерэспубліканскі паказчык ураджайнасці зараз роўны 24,7 цэнтнера з гектара, збожжа намалацілі 3.832,3 тысячы тон. Амаль ва ўсіх абласцях убрана больш за палову ураджаю на Гомельшчыне — 72,2 працэнта ад засеянага (276,9 тысячы гектараў), Магілёўшчыне — 71,2 (291,4), на Брэстчыне — 65,8 (241). Крыху менш у Гродзенскай вобласці — 59 працэнтаў, ці 239 тысяч гектараў, Мінскай — 57,8 (303 тысячы гектараў) і Віцебскай — 48,2 (230). У апошняй, дарэчы, самая нізкая ўраджайнасць — 18,9 цэнтнера.

Сярод лідэраў — гродзенскія (28,8 цэнтнера з гектара) і мінскія гаспадаркі — 26,1. У асноўным па гэтым паказчыку зафіксаваны больш-менш роўныя лічбы: Магілёўская вобласць — 25,5; Брэсцкая — 25,8, Гомельская — 22,5.

Па колькасці сабранага збожжа ўпэўнена лідзіруе Мінская вобласць — 778,3 тысячы тон, далей ідуць Магілёўская — 743,8, Гомельская — 672,9, Гродзенская — 662,3, Брэсцкая — 598 і Віцебская — 427 тысяч тон.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### І АДЗІН У ПОЛІ ВОІН?

Яўных прэтэндэнтаў на ўсенародную пашану можна назваць ужо зараз.

Сярод камбайнераў гэта Васіль Паўлёнак з калгаса «10 год Кастрычніка», які намалаціў, паводле апошніх даных Мінсельгасхарча, 1155 тон збожжа, і яго пастаянны «праціўнік» Мікалай Кухарэнка з калгаса «Зара» Магілёўскага раёна, у якога толькі на 22 тоны менш. У вадзіцеляў фаварыт № 1 — Пётр Крывалевіч з калгаса «Аўсянка» Горацкага раёна: ён здолеў перавезці 2258 тон збожжа (блізкі да яго па цяперашніх паказчыках толькі Мікалай Шэлест з калгаса «Прагрэс» Столінскага раёна, які перавёз 1718 тон).

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ФАТОГРАФЫ СУПРАЦЬ ЧАРНОБЫЛЯ*

**Анатоль КЛЯШЧУК**

## РАЗВІТАННЕ З НАДЗЕЯЙ



**На мінулым тыдні пасёлак Воранава праводзіў у апошні шлях маленькую Надзею Клімовіч.**

**Дзяўчынцы не споўнілася і дзесяці гадоў. Яна памерла ў рэанімацыі анкагематалагічнага цэнтра ў Мінску, не вытрымаўшы цяжкага палону невылечнай хваробы. Рэдакцыя газеты выказвае глыбокае спачуванне сям'і маленькай нябожчыцы. У гэтай сям'і засталіся дзве старэйшыя дачкі.**

*(Працяг на 7-й стар.)*

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў у мэтах павышэння адказнасці кіраўнікоў міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, прадпрыемстваў і арганізацый за дзяржаўнае рэгуляванне заработнай платы і забеспячэнне яе своечасовай выплаты прыняў пастанову.

У прэамбуле адзначана, што міністэрствы, іншыя цэнтральныя органы кіравання, выканаўчыя камітэты недастаткова арганізуюць работу па выкананню Указаў Прэзідэнта рэспублікі Беларусь ад 27 лістапада 1995 г. № 483 «Аб забеспячэнні своечасовай выплаты заработнай платы» і ад 27 лютага 1995 г. № 92 «Аб мерах па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва», Пастаноў Кабінета Міністраў ад 21 снежня 1995 г. № 700 «Аб рэгуляванні аплаты працы на дзяржаўных прадпрыемствах і ў арганізацыях, якія маюць нездавальняючае фінансавае становішча» і ад 10 кастрычніка 1995 г. № 558 «Аб умовах аплаты працы кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, з якімі заключаны кантракты».

У сувязі з гэтым міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, абласным і Мінскаму гарадскому выканкомам дадзена даручэнне: прааналізаваць да 1 кастрычніка 1996 года дзеючыя сістэмы аплаты працы і матэрыяльнага стымулявання, прыняць меры па іх упарадкаванню і паставіць аплату працы ў прамую залежнасць ад росту аб'ёмаў вытворчасці, рэалізацыі прадукцыі і эфектыўнасці работы прадпрыемстваў у цэлым;

праверыць у 2-месячны тэрмін эфектыўнасць выкарыстання грашовых сродкаў і своечасовасць разлікаў за адгружаную прадукцыю на прадпрыемствах і ў аб'яднаннях, якія дапусцілі запазычанасць па заработнай плаце, з выяўленнем прычын, што выклікалі гэтыя негатыўныя з'явы;

распрацаваць у месячны тэрмін графікі праверкі і пагашэння запазычанасці па заработнай плаце, узяць пад самы строгі кантроль дзейнасць неплацежаздольных суб'ектаў гаспадарання і якія страціла працоўную;

забараніць размяшчэнне часова свабодных фінансавых сродкаў на дэпазітных рахунках у банках і ажыццяўленне любых іншых выдаткаў, калі гэта прыводзіць да несвоечасовай выплаты заработнай платы;

прыцягнуць да адказнасці кіраўнікоў падведамных прадпрыемстваў і арганізацый, іншых асоб, якія не забяспечваюць выкананне Указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным рэгуляванні заработнай платы і Пастановы Кабінета Міністраў ад 21 снежня 1995 г. № 700 «Аб рэгуляванні аплаты працы на дзяржаўных прадпрыемствах і ў арганізацыях, якія маюць нездавальняючае фінансавае становішча».

У пастанове таксама сказана, што прэміі і ўзнагароджанні кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый за асноўныя вынікі гаспадарчай дзейнасці выплачваюцца ў поўным памеры пры выкананні паказчыкаў, устаноўленых для прэміравання, і пры адсутнасці запазычанасці па заработнай плаце на прадпрыемствах і ў арганізацыях за адпаведны перыяд.

Дадзена даручэнне Міністэрству працы сумесна з Міністэрствам юстыцыі, Міністэрствам эканомікі і Міністэрствам фінансаў унесці прапановы па змяненню дзеючага заканадаўства, якое рэгулюе парадак аплаты працы за час вымушаных прастояў.

Дзяржаўнай інспекцыі працы Міністэрства працы даручана ўзмацніць кантроль за захаваннем заканадаўства аб аплаце працы на прадпрыемствах і ў арганізацыях незалежна ад формаў уласнасці. Пры выяўленні парушэнняў тэрмінаў выплаты заработнай платы, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (працоўнымі пагадненнямі), да вінаватых будуць прымаць устаноўленыя заканадаўствам меры.

**БЕЛТА.**

### ЖЫЦЦЁ ВЁСКІ — АСАБЛІВЫ КЛОПАТ ПРЭЗІДЭНТА

**Працягваючы рабочую паездку па Гродзеншчыне, Аляксандр Лукашэнка 16 жніўня прыбыў у вёску Эйсманты Бераставіцкага раёна, што знаходзіцца на тэрыторыі калгаса імя Варанецкага.**

Гэта гаспадарка адна з лепшых у вобласці, цяпер яе хлебаробы атрымліваюць больш за 40 цэнтнераў збожжавых з гектара. Аднак у наступным годзе з выкарыстаннем больш інтэнсіўнай тэхналогіі тут плануюць павысіць ураджайнасць да 60 цэнтнераў. На сённяшні дзень вяскоўцы ўжо сабралі палову ўраджаю — каля 400 тон збожжа.

Прыбыўшы ў калгас, Прэзідэнт азнаёміўся з ходам уборкі, пагутарыў з людзьмі, якія прыйшлі яго сустракаць, адказаў на шэраг пытанняў сацыяльнага характару. У прыватнасці, ён паведаміў, што ў кастрычніку гэтага года будзе праведзена комплекснае даследаванне праблемы выплаты пенсій пажылым людзям, па выніках якога будуць зроблены адпаведныя высновы. Аляксандр Лукашэнка сказаў, што дзяржава мае намер дапамагчы вяскоўцам з нарыхтоўкай паліва. На гэтыя мэты будзе выдзелена каля 80 мільярдаў рублёў. Кіраўнік дзяржавы пабываў на палях калгаса, агледзеў шэраг аб'ектаў сацыяльна-культурнага прызначэння.

У другой палове дня Аляксандр Лукашэнка прыбыў у горад Навагрудак, дзе наведаў завод газавай апаратуры, сустрэўся з рабочымі прадпрыемства.

Завяршаючы рабочую паездку па Гродзеншчыне, Прэзідэнт пабываў у Доме-музеі Адама Міцкевіча.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

### З ЗЕМЛЯКАМІ ПРЭЗІДЭНТ АБМЯРКОЎВАЎ САМЫЯ ВОСТРЫЯ ПЫТАННІ

**У мінулую нядзелю кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка зрабіў дзелавую паездку на сваю радзіму — у Шклоўскі раён.**

На мясцовым камбікормавым заводзе Прэзідэнт сустрэўся з кіраўніцтвам і спецыялістамі прадпрыемства. Галоўнай тэмай размовы стала праблема атрымання паўнацэнных і адносна танных кармоў для патрэб жывёлагадоўлі. На Шклоўскім камбікормавым іх вырашаюць за кошт так званай «давальніцкай» сыравіны, гэта значыць той, што пастаўлена заказчыкам. Разам з выкананнем дзяржаўнага заказу па пастаўках збожжа, а нарыхтоўка яго ідзе паспяхова, на захоўванне ўжо прынята дадаткова 10 тысяч тон зерня. Гэта і будзе ў асноўным тая сыравіна, з якой можна вырабляць больш танныя кармы.

У той жа дзень Прэзідэнт сустрэўся з кіраўнікамі гаспадарак, прадпрыемстваў і арганізацый раёна для абмеркавання ходу ўборкі ўраджаю. Адзначалася, што збожжавыя сёлета на Шклоўшчыне добрыя. У сярэднім па раёну ўраджайнасць складае амаль 30 цэнтнераў з гектара. А ў калгасе імя Кірава выходзяць і на 50 цэнтнераў, асобныя ўчасткі ў гэтай гаспадарцы даюць нават больш як 60 цэнтнераў збожжа з гектара. Гаспадаркі раёна ўбралі ўжо звыш 70 працэнтаў плошчаў.

У ходзе сустрэчы шклоўскія аграрыі ўзнялі надзвычай вострую праблему абнаўлення тэхнікі ў калгасах і саўгасах. Машынна-трактарны парк раёна вельмі састарэў, і жніво прыходзіцца весці з вялікім напружаннем сіл, адзначалі яны. Спыніліся ўдзельнікі нарады і на праблеме вырошчвання і рэалізацыі льну. Шклоўшчына здаўна славіцца гэтай культурай, і сёлета плошчы, занятыя ёй, не зменшыліся. Але лён стаў стратным для перапрацоўчых заводаў і гаспадарак. Выйсце трэба шукаць не на мясцовым, а на агульнадзяржаўным узроўні, лічаць шклоўскія земляробы. На сустрэчы Прэзідэнта з землякамі абмяркоўваліся таксама пытанні цэнавай палітыкі ў галіне сельскай гаспадаркі, дзяржаўнай падтрымкі аграрнага сектара эканомікі, пракладвання ў вёсцы дарог і будаўніцтва жылля.

На адной з вуліц Шклова адбылася сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з жыхарамі раённага цэнтра. Яны выказаліся ў падтрымку праводзімай Прэзідэнтам палітыкі і яго рашэння параіцца з народам па важных пытаннях жыцця беларускай дзяржавы.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**

### ОРША: ПРЭЗІДЭНТ ПРЫЕХАЎ НЕЧАКАНА

**19 жніўня Оршу наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Сустрэча з актывам Аршанскага раёна адбылася на камбінаце хлебапрадуктаў. Прысутнічалі работнікі райвыканкома, упраўлення сельскай гаспадаркі, кіраўнікі саўгасаў і калгасаў.**

Прэзідэнт сказаў, што прыехаў нечакана спецыяльна, каб паглядзець, як працуюць на месцах, калі не рыхтуюцца да сустрэчы з ім. Ён цікавіўся ў першую чаргу, як ідзе ўборка ў калгасах і саўгасах, рэалізацыя і накапленне зерня на хлебакамбінаце.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 30 (49)


## ГОМЕЛЬСКИЙ ЗАВОД СТРОЙДЕТАЛЕЙ

предлагает предприятиям и населению высококачественную продукцию собственного производства:

*Форма оплаты любая.*

- **БЛОКИ ДВЕРНЫЕ типа ДГ, ДУ, ДО**
- **БЛОКИ ОКОННЫЕ и БАЛКОННЫЕ типа 02Р и Б2Р**
- **ПИЛОМАТЕРИАЛЫ хвойных и лиственных пород — обрезные и необрезные**
- **ДОСКУ для пола**
- **ОБШИВКУ (вагонку)**
- **ПОГОНАЖ (плинтус, наличник)**
- **ТАРУ**

Принимает индивидуальные заказы на изготовление ДАЧНЫХ ДОМИКОВ, САРАЕВ.

***Наш адрес: 246027, г. Гомель, ул. Барыкина, 301.***
***Тел.: 8 (0232) 45-43-79, 45-43-69, факс 45-35-55.***

## ПРАДАЕЦЦА

- новы вялікі дом у Іянцы (без унутраных работ), участак 8 сотак, побач лес, рака. Танна. Тэл.: (8-293) 34-4-52 вечарам.
- да матацыклаў «Урал», «Днепр» чатыры колы ў зборы, вілка пярэдняя. Тэл. у Мінску 248-39-35.
- Кабыла, узрост 3,5 года, жарэбная. Звяртацца: Мінская вобл., Валожынскі раён, в. Гуды. Тэл. 31-2-15. Гуд У.С.
- Дом з усімі гаспадарчымі пабудовамі, 8 км ад Слоніма, в. Саленікі. Тэл. у Навагрудку 21-7-33.
- Дом з прысядзібным участкам на беразе возера Слабадское Вілейскага раёна, побач лес, рака Норач. Тэл. у Вілейцы 5-37-57.
- Тэрмінова «УАЗ-469 В», 87 г. в., зняты з учоту, у добрым стане, 2500$. Тэл. (8-272) 58-2-90.
- Зруб 6,5х6,5 у камплекце з усімі будматэрыяламі і аконнымі блокамі. Тэл. у Вілейцы: 63-5-05; 64-1-77.
- «Гарызонт-728 Д», каляровы, у добрым стане, за 50$. г. Мінск, тэл. 269-27-42.
- Новы зруб 6х8 у камплекце з усімі будматэрыяламі і аконныя блокі. Смаргонскі раён, в. Ракаўцы, Рафаловіч. Тэл. 28-3-65.
- Секцыя новая, 4-блочная з шафай, нядорага. Тэл. 250-69-54.
- Прадаю альбо мяняю 2-пакаёвую кватэру новай планіроўкі ў г. Буда-Кошалёве на г. Светлагорск Гомельскай вобл. Тэл.: (8-02342) 2-36-10.
- «Масквіч»- 2715 («каблучок») 84 г.в., мотаблок. Тэл. у Ваўкавыску 96-4-14.
- Прадам новы мотаблок у камплекце, фотаружжо «ФС-12» і два матацыклы «Днепр» з запчасткамі, нядорага. Тэл. у Бялынічах 2-16-45.
- Млын прадукцыйнасцю 25 кг/гадзіну. Тэл.: (8-01593) 2-03-93.
- Дом драўляны, маецца склеп, агарод, сад, участак 10 сотак. Тэл. у Ваўкавыску 96-4-14.
- «ВАЗ-2105», 1981 г.в., кузаў (кап. рамонт у 1993 г., газ-бензін), нядорага. Звяртацца: 211487, в. Скачыхі Ушацкага раёна, Шах А.Е.
- Драўляны дом у Асіповічах, участак 10 сотак, тэлефон, гараж, водаправод. Тэл.: (8-02235) 29-1-23.
- Кухня «пад дрэва», кошт 180—160$. Тэл. (01634) 4-01-15. Баранавічы.
- Дом у в. Стаўрова Браслаўскага раёна пад дачу. Ёсць сад, побач возера, лес. Паставы. Тэл.: 22-9-80, 23-3-41.
- 2-павярховы цагляны дом, 200 кв. м, хлеў, гараж, лазня, участак 13 сотак, 50 км ад Мінска. Тэл. (218) 54-8-11.
- Дом у в. Стрыгіна Брэсцкай вобл., за 5 км ад г. Бярозы, участак 30 сотак. Мінск, тэл. 410-221. Тамара.
- Аўтамабіль «АРО»-244, дызель, джып, 1990 г.в., танна, 1,5 тыс.$. Тэл. у г. Камянцы 2-16-16.
- «ВАЗ-2103», 1978 г.в., у добрым стане. 2300$. Тэл. у Мінску 260-22-02.
- Дом у в. Нясята Магілёўскай вобл., вул. Партызанская, 112, участак 25 сотак, сад, рэчка, лес побач. Нядорага. Звяртацца: 230026, г. Гродна, праспект Я. Купалы, 72/3, кв. 113, Жураўская.
- Хлеў 5х6 прыгодны для пабудовы дачы. Тэл. у Карме Гомельскай вобл. 2-16-11.
- Аўтамабіль «Рэно-18» (дызель) на запчасткі, «ВАЗ-2103», 1976 г.в. — 1200$. Тэл. у Лідзе 2-08-30.
- Новы цагляны дом у прыгарадзе Баранавіч альбо мяняю на жыллё ў горадзе. Тэл. (8-01562) 3-22-58.
- Прычэп да «УАЗа» грузападымальнасцю 1,5 т. 400$, тэнт да «УАЗ-31512», заводскі 100$, запчасткі. Звяртацца: Воранава, вул. Веснавая 4/12. Дудзіч.
- Жалезабетонныя трубы (2 шт.) дыяметрам 80 см, даўжынёй 5 м. у Губічах. Тэл. 235-82-84.
- Аўтамашына «ЗІЛ-130» пераабсталяваная пад дызель, танна. Тэл. у Камянцы 2-16-16.
- Калонку газавую, калонку водазаборную ручную, прычэп «Зубраня», гараж, дахавы ліст 0,8, шкло лабавое і задняе да «Масквіча»-2140. Тэл. у Мінску 224-38-62.
- Кватэра 2-пакаёвая ў г. Слуцку, альбо мяняю на кватэру ў г. Мазыры ці Калінкавічах. Тэл. у Нароўлі 2-16-66 з 8 да 17 гадзін.
- Дзве левыя дзверцы, панель прыбораў, электраправодка, бензабак да аўтамабіля «Мазда». Тэл. (8-293) 33-4-30.
- Дом і кватэру ў Паставах. Тэл. 2-43-78.

Электраліт шчолачны. Тэл. у Слуцку (8-01795) 2-27-10 з 8 гадзін.

- Дом драўляны 6х12 з гаспадарчымі пабудовамі альбо памяняю на трактар «МТЗ», б/к. Тэл. у Салігорску 2-29-32.
- Матацыкл «Урал-3» з каляскай у рабочым стане, 100$. Тэл. у Міры 2-32-49.
- Дом у Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці, ёсць сад, хлеў, студня, лазня, агарод. Тэл. 3-43-14.
- Рухавік «МТЗ-80», каробку «ЗІЛ-130» з кажухом для пераабсталявання машыны пад дызель. Тэл. у Камянцы 2-16-16.
- Перабудаваны катэдж (унутраныя работы) у г. Смаргоні (раён электрасетак). Тэл. у Смаргоні 5-11-76.
- Дабротны дом 7х10, хлявы, склеп, студня, лазня, сад, 46 сотак зямлі ў Вілейскім раёне. Тэл. у Вілейцы 5-31-06.
- Аўтобусы «Вольва», «Ман», «Даф», «Шанья», б/к, у добрым стане. Тэл. у Докшыцах 2-16-12.

## ВІНШУЕМ!

*Віншуем Таццяну і Васіля АНДРЫЕЎСКІХ (г. Мазыр) з нараджэннем дачкі. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту.*

**Сям'я Сіраж: маці, бацька, Алена, Святлана, Ігар, Алег, Андрэй.**

*Віншуем з днём нараджэння нявестку Любоў Вітальеўну БАГДАНЕЦ (г. Маларыта). Жадаем моцнага здароўя і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Свёкар, свякруха, с. Лунін, Лунінецкі раён.**

*Віншуем з днём нараджэння ўнука Дзмітрыя Барысавіча БАГДАНЦА (г. Лунінец). Жадаем здароўя, радасці і поспехаў у вучобе.*

**Дзядуля, бабуля, с. Лунінец.**

*Віншуем любага мужа і тату Сяргея АНДРУШКЕВІЧА з днём нараджэння. Дзякуй за тое, што ты ёсць, што сваёй дабрынёй і пяшчотай робіш нас самымі шчаслівымі ў свеце.*

**Жонка, дачушкі, в. Масцішча.**

*Ад усёй душы віншуем дарагую мамачку і бабулю Вольгу Пятроўну ГАРАЧКА з в. Гошава з днём нараджэння. Жадаем здароўя на доўгія гады, шчасця і дабрабыту.*

**Дачка Алена, зяць Сярожа і ўнукі Жэня і Сярожа.**

*Ганну Сцяпанаўну АРАШКЕВІЧ віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця, поспехаў у працы.*

**Муж, сыны, дачка Іра, зяць Павел і ўнучка Надзюша, г. Лунінец.**

## РОЗНАЕ

- Мяняю дом з усімі выгодамі ў Кіраўску Магілёўскай вобласці на кватэру ў Гродне. Тэл. (8-02237) 22-3-87.
- Мяняю аднапакаёвую кватэру (36/18, 3-і паверх, кафля, паркет) у Соснах на аднапакаёвую кватэру з даплатай у любым раёне г. Мінска (акрамя Заводскага). г. Мінск, тэл. 248-44-30.
- Аказваю аўдытарскія паслугі. г. Мінск, тэл. 227-94-46.
- Вышлю лекавыя травы (душыцу, ісоп і інш.), а таксама насенне многіх лекавых траў. Звяртацца: 231813, Гродзенская вобл., Слонімскі раён, в. Ашнаравічы, Жукоўскаму І. Ул.
- Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Ганцавічах на раўназначную ў Мазыры, альбо прадам. Тэл. у Камянцы 2-16-16.
- Прапала жарэбная кабылка чырвона-рыжай масці з белай плямкай на лбе. Знайшоўшых чакае ўзнагарода. Любанскі раён, в. Радковічы. Тэл. (8-294) 53-1-64.
- Мяняю дом з усімі пабудовамі, садам, агародам на аднапакаёвую кватэру ў Маладзечне. Тэл. у Маладзечне 6-22-50.

## ВІНШУЕМ!

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Станіслава Якаўлевіча МЯЛЕЦКАГА з в. Байкі Слонімскага раёна. Жадаем здароўя, дабрабыту ў сям'і і доўгіх гадоў жыцця.*

**З павагай жонка, дочкі і зяць.**

*Віншуем з днём нараджэння любімую жонку і матулю Таццяну ЗАПОЛЬСКУЮ. Жадаем здароўя, шчасця, светлых дзён у жыцці.*

**Муж Уладзімір, сынок Мірослаў з г. Ліды.**

*Віншуем Косціка БУЗУКА з днём нараджэння. Жадаем здароўя, вясёлага і шчаслівага дзяцінства, поспехаў у вучобе.*

**Мама, тата, брат, сябры, в. Белагурна.**

*Віншуем з днём нараджэння дарагіх татачку і матулю Анатоля Іосіфавіча і Ганну Нікадзімаўну ПІСКУНОВІЧАЎ. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, радасці і шчасця на ўсё жыццё.*

**Дзеці і ўнукі.**

*Віншуем з днём нараджэння нявестку Галіну Міхайлаўну і ўнучку Ірыну. Жадаем здароўя, шчасця, радасці, кахання, дабрабыту.*

**Бацькі, дзядуля і бабуля Крантоўскія з Мінска.**

*Віншуем з днём нараджэння дарагую мамачку Ганну Антонаўну СУВОРАВУ. Жадаем здароўя і шчасця.*

**Муж, дзеці.**

*Дарагі наш татачка і дзядуля Уладзімір Аляксеевіч КУНЦЭВІЧ. Віншуем цябе з 55-годдзем. Жадаем табе моцнага здароўя, радасці, шчасця, дабрабыту і доўгіх гадоў жыцця. Дзякуй табе за клопаты аб нас.*

**Жонка, дзеці, унукі.**

*Віншуем з днём нараджэння дачушку ПЛІСКО Таццяну з г. Маладзечна. Жадаем здароўя, радасці і поспехаў у вучобе.*

**Мама, тата.**

*Дарагую матулю Марыю Іванаўну ГЛОБАЖ віншуюць з 60-годдзем дочкі, зяці і ўнукі. Будзь прыгожай, не хварэй, расцвітай і не старэй.*

*Заслужанага чалавека Емяльяна Карпавіча СТЭЛЬМАХОВА з вёскі Расасна Дубровенскага раёна віншуем з 87-годдзем.*

*Вы нарадзіліся на свята Спаса,*
*Хай поўніцца радасцю Ваша хата,*
*Хай беражэ Вас Бог ад усякіх нягод*
*і няшчасцяў!*

**Любячыя Вас сын, дачка, нявестка, зяць, унукі з Мінска.**

## Паважаныя кліенты!

**З 19.08.96** года мяняюцца тарыфы на перасылку пісьмовай карэспандэнцыі ў краіны далёкага замежжа:

- перасылка простага пісьма масай да 20 г — 2300 рублёў;
- перасылка простай паштовай карткі — 1100 рублёў;
- перасылка бандэролі вагой да 100 г — 8600 рублёў.

Рэспубліканскае аб'яднанне «Белпошта».

## СО СКЛАДА В ГОМЕЛЕ

- трубы 102х3,5 в битумно-атактической изоляции по ГОСТ 9,602-89 — 11 млн./т.
- трубы водогазопроводные (ГОСТ 3262)
- ДУ 15, 32, 40, 50 — 7,2 до 7,5 млн./т
- круги алюминиевые — 50 млн./т
- сталь нержавеющая:
  12Х18Н10Т — (1,2) — 65 млн./т
  08Х17Т (2,5-3 мм) — 50 млн./т
- гаражи стояночные типа «хлебница»
- лист горячекатанный 2—4 мм — 5,3 млн/т

**Телефоны для справок:**
8-0232 - 53-96-41, 55-77-90, 55-77-45.

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет: 8, 11, 15 дней авиа «Боинг» | от 525 $. 4-5-звездный отель | Техно-стар | тел./факс 268-47-14 тел. 268-56-69. |

## ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**
**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-77.**

СУД І БЫТ

# «ЗОННЫ» ПРЭСІНГ

**У турмах і калоніях Беларусі ўтрымліваецца звыш 50 тысяч асуджаных. І паказчыкі пастаянна растуць. Па словах аднаго высокага міліцэйскага чына, кожны месяц «кантынгент» павялічваецца на 600—700 душ. Гэта здараецца таму, што, па словах таго ж чына, пад артыкул КК трапляюць людзі, якія ўкралі мех бульбы ці наўмысна пракалолі кола суседскай машыны.**

**Іншымі словамі, «каласковая» тэндэнцыя ў нашым правасуддзі захоўваецца. Хто не ведае, тлумачу: тэрмін з'явіўся на пачатку 30-х гадоў, калі выдалі «указ ад 7/8». Ён прадугледжваў крымінальную адказнасць за крадзеж сацуласнасці. Называлася — «пасадзіць за каласкі»...**

1.

Некаторыя раяць шукаць выйсце з дапамогай амністыі. Але вось бяда: не любяць яе ў нас. За апошнія 9 гадоў у Беларусі правялі дзве амністыі, датэрмінова на волю выпусцілі... 576 чалавек, у асноўным жанчын... А калі ўлічыць, што праект новага КК, па меркаванню некаторых экспертаў, ёсць толькі падкарэкціраваны КК 1961 года, можна зрабіць выснову: амністыі не дапамогуць. Карны ўхіл правасуддзя робіць іх, мякка кажучы, бессэнсоўнымі.

У снежні мінулага года адзін з райсудоў Мінска разглядаў справу грамадзяніна К. Ён украў у магазіне палову індычкі, крыху раней — некалькі кілаграмаў гароху. Суд вызначыў меру пакарання ў 5 гадоў зняволення. Да гэтага К., праўда, ужо меў тры судзімасці і ганаровае званне асабліва небяспечнага рэцыдывіста. Але ж тэрмін уражвае.

Цікава, што ў тым жа судзе нехта Б. атрымаў сем гадоў за наўмыснае забойства. У першым выпадку — палова індычкі і 5 гадоў, у другім — жыццё чалавека і 7 гадоў. Ёсць аб чым падумаць.

Хоць у абодвух выпадках не трэба шукаць злой волі суддзі. У рэшце рэшт, ён дзейнічае ў тым прававым полі, якое было створана да яго. У нейкім сэнсе — ён марыянетка, як ні крыўдна гэта гучыць.

Самае вялікае раздражненне выклікае ў суддзяў сумна знакаміты артыкул 91. 1 — крадзеж у асабліва буйных памерах. Ён прадугледжвае пакаранне ў выглядзе зняволення на тэрмін ад 10 да 15 гадоў. Суддзі называюць яго «мафіёзным». Гэта яны так горка жартуюць.

І ім нічога іншага не застаецца. Каб трапіць пад гэты артыкул, дастаткова ўкрасці на суму ў 100 мінімальных зарплат. Цяпер гэта 10 мільёнаў, нядаўна яшчэ было 6, яшчэ раней — 10 тысяч паўнаважкіх савецкіх рублёў. На іх, напрыклад, можна было купіць паўтары машыны. Што такое 10 мільёнаў цяпер? Смешна гаварыць. Усё цячэ і ўсё мяняецца, тэрміны застаюцца тымі ж — ад 10 да 15. Хоць трэсні.

Амаль кожны раз перад суддзёй паўстае дылема — не пакараць нельга, але і «адваліць» поўны тэрмін — сумленне не ўсім дазваляе. Суддзя ж з 15-гадовым стажам Б. расказвае выпадак з практыкі. Шасцёра падлеткаў, два крадзяжы, агульная сума — каля 6 мільёнаў (1995 год), чыста 91.1. Адправіць у калонію, каб праз некалькі гадоў атрымаць кваліфікаванага злодзея?

На сваю рызыку, суддзя пашкадавала падсудных. Трое кампенсавалі страты і атрымалі ўмоўны тэрмін. Але двое другіх трапілі на 4, трэці — на 3 гады ў калонію.

Праўда, не заўсёды атрымліваецца так добра. Па той жа 91 1 Б. прыйшлося судзіць траіх рабочых. На крадзеж яны пайшлі ад адчаю, усе былі беспрацоўныя, а карміць сем'і за іх ніхто не збіраўся. Суд, тым не менш, пастараўся ўлічыць усе змякчаючыя віну акалічнасці. Апрача ўсяго іншага, суддзя павінен памятаць пра вышэйстаячыя інстанцыі, якія могуць вырашыць, што прыгавор мяккі. І адмяніць яго. Рабацягі атрымалі па 9 гадоў.

У якасці ілюстрацыі. У 1994 годзе Рагачоўскі суд асудзіў Т. па арт. 91. 1 на 3 гады ўмоўна. Сутнасць справы: крадзеж аўтамабіля, страты — 3,2 мільёна рублёў. Пры гэтым ён быў вернуты. Да таго ж першая судзімасць, малады ўзрост і г.д.

Аднак старшыня Вярхоўнага суда ўнёс пратэст, а судовая калегія ВС па крымінальных справах яго задаволіла. Прыгавор адмянілі. У вызначэнні гаварылася, што злачынства ўяўляе павышаную грамадскую небяспеку, аднесена да цяжкіх, а асоба, якая яго ўчыніла, з'яўляецца асабліва небяспечнай. Вось так.

У адным з мінскіх судоў да разгляду рыхтуецца справа аб крадзяжы 650 мільёнаў рублёў. Як гаворыцца, красці — дык мільярд. Хоць сядзеш за справу...

2.

Чалавеку, які выхаваны ў духу класічнай логікі, даволі цяжка ўспрымаць наш Крымінальны кодэкс. Такое ўражанне, што прынцып, па якім ён складаўся — наўмысная алагічнасць.

Дастаткова зрабіць невялікі параўнальны аналіз некаторых артыкулаў, каб у гэтым пераканацца. Напрыклад, максімальнае пакаранне за неасцярожнае парушэнне правілаў дарожнага руху — 3 гады. У той жа час за наўмыснае парушэнне ПДР — таксама 3 гады.

Ідзём далей. Ненаўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў (альбо смерць) прадугледжвае зняволенне на тэрмін да 10 гадоў. Тое ж, але наўмыснае злачынства караецца тэрмінам зняволення да 8 гадоў, калі ж прывяло да смерці — да 10 гадоў. Такім чынам, логіка адсутнічае амаль поўнасцю. Розныя па матывацыі злачынствы караюцца аднолькава. У імперыялістаў, трэба сказаць, усё інакш. За мяжой 97 працэнтаў асоб, якія ўчынілі неасцярожнае злачынства, караюцца звычайным штрафам.

Замежжа нам, праўда, не ўказ. За апошнія гады ў КК уносіліся змяненні. Але катэгорыі неасцярожных злачынстваў амаль не закранулі. У новым праекце КК (ён прыняты ў першым чытанні), таксама нічога прынцыпова новага.

Якія законы — такая і практыка. За 1990—1992 гг. у Гомелі з агульнай колькасці асуджаных за неасцярожныя злачынствы 25 працэнтаў асуджаны, 30 — асуджаны ўмоўна, 20 — умоўна, але з абавязковым прыцягненнем да працы. За тыя ж два гады ні адзін з хабарнікаў не асуджаны.

Значыць, няма сумнення, што чалавек, які выпадкова скінуў цагліну на галаву суайчынніка, больш небяспечны для грамадства, чым хабарнік ці забойца.

3.

Нельга жыць у грамадстве і быць свабодным ад яго. Не ведаю, як іншыя катэгорыі насельніцтва, а суддзі правільнасць гэтых святых слоў правяраюць на сваёй скуры рэгулярна.

Мала хто з іх радуецца пры разглядзе спраў па арт. 93 (рэкет). «Мерседэсы» пад акном, дужыя хлопцы ў «скуры», што сядзяць у зале, уздзейнічаюць на суддзю пэўным чынам.

Арт. 93 утрымлівае тры часткі. Максімальнае пакаранне — ад 5 да 10 гадоў, мінімальнае — ад 1 да 5. Мяркуючы па тэрмінах, рэкет не з'яўляецца ў нас цяжкім крымінальным злачынствам. Гэта зразумела: вымагаюць не ў дзяржавы, а ў прыватнай асобы, гарачы прас прыстаўляюць не да жывата дырэктара завода, а малога прадпрыемства — прыярытэты відавочныя.

Знаёмы суддзя прызнаецца: «Я неабаронены». Ён разумее, што вось гэтаму падонку трэба даваць максімальны тэрмін. Але не дае. У выпадку абвастрэння сітуацыі пасля вынясення прыгавору суддзя застаецца сам-насам з сябрамі асуджанага. У Заводскім судзе суддзі М. назвоньваюць два гады, пагражаючы расправай яму і яго сям'і. Ці варта рызыкаваць жыццём за мільён у месяц? Менавіта столькі ў сярэднім атрымлівае суддзя. З даплатамі за стаж і класнасць. Тым больш, пагрозы зусім не пустыя. Вядомы выпадкі нападаў на суддзяў. У прыватнасці, сёлетняй вясной у Магілёве.

Грамадства цяжарнае на насілле, і родавыя схваткі ўжо пачаліся. Па сутнасці, суддзя не ведае, чым асабіста для яго абернецца чарговы суровы прыгавор. Такі камікадзе. Таму, па выразу Жванецкага, мякчэй, мякчэй, таварышы...

4.

Шырока распаўсюджана ў народзе меркаванне: усе суддзі купленыя. Як гаворыцца, не без гэтага, але ўсё куды больш складана.

Парадокс, але ў савецкія часы суддзя быў больш абаронены. Па-першае, гэта пасада была выбарная. Суддзяў выбіралі разам з дэпутатамі розных узроўняў. Што цікава, галасоў «супраць» таго ці іншага суддзі падавалася значна менш, чым пры галасаванні за дэпутатаў.

Па-другое, суддзя мог уважліва выслухаць «пажаданні» і зрабіць па-своему. Зразумела, гэта пагражала складанасцямі і наступным невыбраннем. Словам, усё залежала ад асобы суддзі. На тых, хто не паддаваўся, звычайна і не ціснулі. Хапала іншых, гатовых на ўсё.

Зараз усё прасцей, горш і страшней. Зараз звоняць, прадстаўляюцца і кажуць: «Нам бы хацелася...» У прынцыпе, калі вы такі справядлівы, просьбу можна і праігнараваць. Але лепш не трэба. Забіць не заб'юць, але ў тым што знімуць — не сумнявайцеся.

5.

Увядзенне суда прысяжных — пытанне практычна вырашанае. Адпаведныя палажэнні ў праект новага Крымінальнага кодэкса ўключаны. Інакш кажучы, ужо канчаткова вырашана, што суд прысяжных — гэта добра і прагрэсіўна. Тым больш цікавыя меркаванні суддзяў-практыкаў.

А яны, як ні дзіўна, у асноўным супраць. Лічаць, што мы да такога суда яшчэ не даспелі.

Па-першае, цяжка будзе рэалізаваць гэты праект ва ўмовах сучаснага раённага суда, дзе элементарна не хапае месца. Напрыклад, у Гомелі тры райсуды размяшчаюцца ў адным памяшканні, а на 24 суддзі — 6 залаў: судзіць прыходзіцца ў парадку жывой чаргі.

Па-другое, нават дваіх сённяшніх засядацеляў цяжка сабраць. Звычайна гэта пенсіянеры, згодныя займацца даволі небяспечнай справай за мізэрную аплату, (каля 10 тысяч рублёў у дзень). Схільныя шкадаваць падсуднага, аб чым той выдатна ведае і актыўна выкарыстоўвае. Добра, калі чалавек трапіў на лаву падсудных выпадкова і ўпершыню. А калі гэта вопытны злачынца з некалькімі «ходкамі», які добра «кумекае» ў псіхалогіі?

Сумніўныя моманты закладзены ўжо ў праекце кодэкса. Скажам, артыкул 330 так і называецца: «Слова на дарогу старшынствуючага». Ясна, што ніхто не дасць гарантыі, што ў сваім «слове» суддзя-прафесіянал не зможа завуаліравана праінструктаваць прысяжных адносна вердыкту: віноўны ці невіноўны.

З другога боку, прысяжныя з'яўляюцца хоць нейкім сувязным звяном паміж грамадзянамі і дзяржавай. Такім чынам грамадства спрабуе ўдзельнічаць у судовым пасяджэнні. Гэта выдатна, але адразу ўзнікае новая праблема: ад прысяжных патрабуецца вельмі высокі ўзровень свядомасці. Ці можна сказаць, што наша грамадства знаходзіцца на гэтым узроўні? Штосьці няма такой упэўненасці.

Дарэчы, на Украіне суд прысяжных чамусьці не прыжыўся. У той жа час у Вялікабрытаніі ён дзейнічае даўно і паспяхова. Праўда, брытанцы, у адрозненне ад украінцаў, ва ўмовах дэмакратыі жывуць значна больш.

***

Звычайная сусветная практыка: змены ў судовым заканадаўстве рыхтуюцца 5-6 гадоў. Прычым гаворка ідзе аб краінах з трывалымі дэмакратычнымі традыцыямі. У нас гэта складаная праца заняла крыху больш як 4 гады. І ўжо гатовы праект, і паспешліва прыняты ў першым чытанні. Сутнасць, аднак, засталася практычна ранейшая: казніць, нельга памілаваць. Ці рэформа гэта? Без кардынальнага змянення судовага заканадаўства гэта не мае ніякага сэнсу, бо карны ўхіл застаўся.

Але тады ўзнікае наступнае пытанне: відаць, існуючыя ўлады такое рэжым такое становішча задавальняе? Улада судовая абслугоўвае ўладу выканаўчую, чаму мы раз-пораз становімся сведкамі.

У гэтым выпадку дзяржаве прыйдзецца будаваць новыя турмы, калоніі, бо сённяшнія ўжо не ўмяшчаюць наяўны «кантынгент». На гэта патрэбны грошы, і вялікія грошы. Мы, падаткаплацельшчыкі, павінны іх даць. Але нам таксама патрэбны кватэры, школы, магазіны, дзіцячыя садкі, басейны, лазні і шмат чаго іншага. Прыйдзецца выбіраць.

Праўда, нас не спытаюць...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# УЖО НА СТАРЦЕ ПРЭЗІДЭНТ АБЫШОЎ СВАІХ АПАНЕНТАЎ

## 15 жніўня афіцыйна аб'яўлена аб пачатку кампаніі па правядзенню рэферэндуму

**Праграмнае выступленне Прэзідэнта перад грамадскасцю Гродзенскай вобласці, якое ў прамым тэлеэфіры трансліравалася на ўсю краіну, абазначыла на бліжэйшыя тры месяцы кола праблем, вакол якіх разгорнуцца палітычныя баталіі.**

15 ЖНІЎНЯ АФІЦЫЙНА ДАДЗЕНЫ СТАРТ палітычнай кампаніі пад умоўнай назвай «Рэферэндум-2». Прэзідэнт зрабіў выклік адначасова ўсім сваім апанентам — палітычным партыям і рухам, Вярхоўнаму Савету, Канстытуцыйнаму суду, апазіцыйным палітычным дзеячам.

Прамова Аляксандра Лукашэнкі, звернутая да народа з заклікам падтрымаць яго, кіраўніка краіны, — была, як заўсёды, пранікнёнай, пафаснай, афарыстычнай, зразумелай для мільёнаў радавых грамадзян. Па ўзроўню прамоўніцкага таленту палітыка, роўнага Прэзідэнту, сёння ў краіне не існуе.

Гэта акалічнасць — несуцяшальная для сённяшняй разнашэрснай апазіцыі, якая спрабуе процістаяць умацаванню прэзідэнцкай улады, паколькі бачыць у гэтым небяспеку ўсталявання аўтарытарнага рэжыму.

Незалежныя сацыёлагі сведчаць: папулярнасць Аляксандра Лукашэнкі за апошнія месяцы не знізілася. Яна ўжо доўгі час трымаецца на адзнацы, зусім дастатковай для таго, каб з дапамогай грамадскай думкі перамагаць сваіх палітычных праціўнікаў.

Ініцыіраваны Прэзідэнтам Беларусі нацыянальны кангрэс, які ўжо прызначаны на 14 верасня, — яшчэ адзін папераджальны ўдар па апазіцыі і Вярхоўнаму Савету, па іх зацяжных спробах (якія, да таго ж, увесь час адкладваюцца) наладзіць то «круглы стол», то кангрэс дэмакратычных сіл. Калі парламент да 14 верасня не паспее абмеркаваць прэзідэнцкую ініцыятыву і прыняць па ёй рашэнне — пасля гэтай даты, на якой 6-тысячны форум падтрымае ідэю рэферэндуму і ўхваліць новую рэдакцыю Канстытуцыі, у Вярхоўнага Савета ўжо проста не застанецца прасторы для манеўру, для ўласнай ініцыятывы.

Яшчэ адна навіна, якую прынёс дзень 15 жніўня: давыбары ў Вярхоўны Савет не адбудуцца. Гэта цвёрда паабяцаў (і абяцанне сваё, несумненна, стрымае) Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Многія радавыя выбаршчыкі, у чыіх акругах дагэтуль не выбраны дэпутаты, у сувязі з гэтым задаюць лагічныя пытанні: давыбары прызначаны і павінны адбыцца ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам аб выбарах.

Права выбіраць і мець свайго прадстаўніка ў вышэйшым заканадаўчым органе дзяржавы — канстытуцыйнае права грамадзяніна. Дык ці можна пазбаўляць людзей гэтага права, нават у імя высакароднай мэты эканоміі грашовых сродкаў?

Добра, паверым на слова, прымем за аксіёму, што сённяшняя Канстытуцыя, напісаная «пад Кебіча» — нядобрая, недасканалая, таму яе могуць і не выконваць дзяржаўныя мужы. Ну а тая, другая, якая хутка з'явіцца, — яна будзе дасканалай, задаволіць усе галіны ўлады, усіх грамадзян? І як быць, калі другі Прэзідэнт, які прыйдзе на змену сённяшняму, аб'явіць яе дрэннай і перастане выконваць?

Рана ці позна, час усё расставіць на свае месцы. Падобна на тое, што ні 15 сакавіка, ні 7 лістапада — не апошнія дні нараджэння Канстытуцыі, якія наканавана святкаваць сённяшняму пакаленню беларускага народа. Ды і адкуль было ўзяцца традыцыі шанавання непарушнасці Асноўнага закона? Мы і пры камуністах мянялі канстытуцыі як пальчаткі: 1918 год, 1936-ы, 1977-ы... І народ за тыя гады прывык ужо, што ў Канстытуцыі запісана адно, а ў жыцці адбываецца другое...

Што ж, грамадства большасцю галасоў само выбірае для сябе будучыню. І дзіўна, што потым гэтая ж большасць так гучна наракае на тое, што жыць становіцца ўсё цяжэй.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.55 | 20.30 | 14.35 |
| Віцебск – | 5.41 | 20.24 | 14.43 |
| Магілёў – | 5.44 | 20.19 | 14.35 |
| Гомель – | 5.47 | 20.10 | 14.23 |
| Гродна – | 6.13 | 20.42 | 14.29 |
| Брэст – | 6.16 | 20.41 | 14.25 |

### МЕСЯЦ

Маладзік 14 жніўня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Мітрафана, Пімена, Меркурыя Смаленскага

К. Бернарда, Сабеслава

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Тэмпература паветра ў Гродне, Мінску, Віцебску, Магілёве — 27—29, Брэсце і Гомелі — 28—30 градусаў.

У наступныя двое сутак невялікая воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература ўначы — 11—16, удзень — 26—31 градус цяпла.

# РАЗВІТАННЕ З НАДЗЕЯЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**Смерць Надзеі папоўніла трагічны спіс ахвяр анкалогіі і яшчэ больш зацвердзіла ў свядомасці, што жывём мы ў краіне паміраючых дзяцей. Што радзіма не здольна зберагчы нашу будучыню. Новае пакаленне вымушана існаваць у асяроддзі хіміі і атаму, без чыстага паветра, вады і ежы. Многія яшчэ, гэтак жа, як і воранаўская жыхарка, прынясуць сябе ў ахвяру цывілізацыі. Жахліва ад адной толькі думкі. Бо ніхто не ведае, чый сын ці дачка будзе наступным. Усе пад адным Богам.**

**Я не меў ніякага маральнага права не паехаць на развітанне з Надзеяй. Гэтая бараўлянская вязніца была асаблівай пацыенткай, і сталася так, што яе партрэт «упрыгожыў» афішу фотавыставы да 10-годдзя Чарнобыля «Зона журбы». Тысячы прахожых кідалі свае погляды на партрэт і сустракаліся з пранізлівымі і таямнічымі вачыма. Вачыма Надзеі з плакатаў глядзела зона нашай вялікай бяды. Каталог фотаздымкаў з яе абліччам на вокладцы трапіў амаль у 50 краін свету, каб данесці жудасную праўду пра нашу паслячарнобыльскую перспектыву. А цяпер дзяўчынка з плаката ператварылася з сімвала надзеі ў сімвал вечнага смутку. Калі Надзею хавалі, наперадзе жалобнай працэсіі неслі гэты плакат, які, па ракавому супадзенню, не прынёс ёй ні палёгкі, ні выратавання.**

**Дактары называлі Надзею фотамадэллю, і даверлівая пацыентка з удзячнасцю ўспрымала ўсмешкі людзей у белых халатах — як надзею на хуткае сваё вызваленне з гэтых сцен. Яна часта не разумела матуліных слёз — «як так, дактары ж казалі такія прыгожыя словы...»**

**Не ўратавалі ні імя, ні бацькоўскія малітвы, ні апраменьванне з хіміятэрапіяй. Цуду не адбылося. Хвароба мела свой лагічны працяг.**

**Нават у невялікім Воранаве гэта ўжо не першае пахаванне дзіцяці — ахвяры рака. Цяпер на ўліку яшчэ чацвёра малых. Выглядае так, што цэлага паслячарнобыльскага дзесяцігоддзя аказалася мала, каб нешта зразумець, што з намі, у рэшце рэшт, адбываецца.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

Зацверджаны Цэнтральнай камісіяй
Рэспублікі Беларусь па выбарах
і правядзенню рэспубліканскіх
рэферэндумаў 12 жніўня 1996 года

## КАЛЯНДАРНЫ ПЛАН

**асноўных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенню дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання**

| Мерапрыемствы | Тэрміны правядзення |
|---|---|
| **1.** Апублікаванне пастановы Цэнтральнай камісіі аб назначэнні дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання па выбарчых акругах, дзе не выбраны дэпутаты | Да 15 жніўня 1996 года ўключна |
| **2.** Прадстаўленне Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь Цэнтральнай камісіі спіса палітычных партый і арганізацый ветэранаў Рэспублікі Беларусь, якія зарэгістраваны гэтым міністэрствам і маюць права ўдзельнічаць у выбарах (не пазней чым праз пяць дзён пасля назначэння выбараў — артыкул 321 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь»*) | Да 17 жніўня 1996 года |
| **3.** Прадстаўленне Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй Цэнтральнай камісіі ліміту часу для выступлення кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па мясцовым радыёвяшчанні (на працягу дзесяці дзён пасля назначэння выбараў — артыкул 431 закона) | Да 22 жніўня 1996 года ўключна |
| **4.** Абласным, Мінскаму гарадскому, раённым і гарадскім выканаўчым камітэтам, пры неабходнасці, правесці змяненні ў саставах акруговых і ўчастковых выбарчых камісій па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь | у адпаведнасці з артыкулам 252 закона |
| **5.** Апублікаванне аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам месца знаходжання акруговых выбарчых камісій | Не пазней 16 верасня 1996 года |
| **6.** Рэгістрацыя Цэнтральнай камісіяй выбарчых блокаў (заканчваецца за 65 дзён да выбараў — артыкул 321 закона) | Да 20 верасня 1996 года ўключна |
| **7.** Накіраванне Цэнтральнай камісіяй у сродкі масавай інфармацыі паведамлення аб рэгістрацыі выбарчых блокаў (у трохдзённы тэрмін пасля рэгістрацыі — артыкул 321 закона) | да 24 верасня 1996 года ўключна |
| **8.** Апавяшчэнне выканаўчымі камітэтамі, якія ўтварылі выбарчыя ўчасткі, выбаршчыкаў аб межах выбарчых участкаў (артыкул 18 закона) | Не пазней 5 кастрычніка 1996 года |
| **9.** Апублікаванне выканаўчымі камітэтамі, якія ўтварылі ўчастковыя выбарчыя камісіі, месца знаходжання ўчастковых выбарчых камісій (артыкул 24 закона) | Не пазней 17 кастрычніка 1996 года |
| **10.** Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (пачынаецца за 70 дзён і заканчваецца за 40 дзён да выбараў — артыкул 34 закона) | З 15 верасня па 14 кастрычніка 1996 года ўключна |
| **11.** Прадстаўленне ў акруговую выбарчую камісію протаколаў сходаў; рашэнняў палітычных партый, выбарчых блокаў, арганізацый ветэранаў, таварystваў інвалідаў, інвалідаў па зроку, глухіх; падпісных лістоў аб вылучэнні кандыдатам у дэпутаты і іншых матэрыялаў, неабходных для рэгістрацыі (не пазней чым за 40 дзён да выбараў — артыкул 34 і інш. закона) | Да 14 кастрычніка 1996 года ўключна |
| **12.** Паведамленне асобы, вылучанай кандыдатам у дэпутаты па некалькіх выбарчых акругах, акруговай выбарчай камісіі аб згодзе балаціравацца па пэўнай, адной выбарчай акрузе (не пазней чым праз тры дні пасля заканчэння тэрміну вылучэння кандыдатаў у дэпутаты — артыкул 36 закона) | Да 17 кастрычніка 1996 года ўключна |
| **13.** Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (пачынаецца за 40 дзён і заканчваецца за 30 дзён да выбараў — артыкул 36 закона) | З 15 па 24 кастрычніка 1996 года ўключна |
| **14.** Накіраванне акруговымі выбарчымі камісіямі ў сродкі масавай інфармацыі паведамлення аб рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты (артыкул 36 закона) | не пазней чым на чацвёрты дзень пасля рэгістрацыі кандыдатаў |
| **15.** Рэалізацыя кандыдатам у дэпутаты яго права на прадстаўленне тэксту сваёй перадвыбарнай праграмы для апублікавання ў мясцовым друку (не пазней чым за 20 дзён да выбараў — артыкул 431 закона) | Да 3 лістапада 1996 года ўключна |
| **16.** Унясенне акруговымі выбарчымі камісіямі ў Цэнтральную камісію прапаноў (калі яны будуць) аб парадку выступлення кандыдатаў у дэпутаты па мясцовым дзяржаўным радыёвяшчанні (артыкул 431 закона) | Не пазней чым за два месяцы да выбараў |
| **17.** Правядзенне сустрэч кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з выбаршчыкамі | З моманту рэгістрацыі Да 23 лістапада 1996 года ўключна |
| **18.** Удакладненне адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі і ўчастковымі выбарчымі камісіямі спісаў выбаршчыкаў, якія пражываюць на адпаведнай тэрыторыі і маюць права ўдзельнічаць у выбарах (артыкул 57 закона) | Напярэдадні паўторных выбараў |
| Пры неабходнасці складаюцца новыя спісы ў адпаведнасці з артыкуламі 30—32 закона | Не пазней чым за 15 дзён да выбараў |
| **19.** Апавяшчэнне ўчастковымі выбарчымі камісіямі выбаршчыкаў аб часе і месцы галасавання (не пазней чым за дзесяць дзён да выбараў — артыкул 47 закона) | Не пазней 13 лістапада 1996 года |
| **20.** Забеспячэнне акруговымі выбарчымі камісіямі ўчастковых выбарчых камісій выбарчымі бюлетэнямі | Не пазней 20 лістапада 1996 года |
| **21.** Прадстаўленне ў акруговую выбарчую камісію ўчастковымі выбарчымі камісіямі пратаколаў аб выніках галасавання | Неадкладна пасля састаўлення і падпісання пратакола, але не пазней 9 гадзін раніцы наступнага дня пасля галасавання |
| **22.** Прадстаўленне ў Цэнтральную камісію акруговымі выбарчымі камісіямі пратаколаў аб выніках выбараў | Да 29 лістапада 1996 года |
| **23.** Апублікаванне акруговымі выбарчымі камісіямі паведамлення аб выніках выбараў па адпаведнай выбарчай акрузе ў тэрмін, устаноўлены Цэнтральнай камісіяй (не пазней чым на пяты дзень пасля выбараў — артыкул 51 закона) | Да 29 лістапада 1996 года ўключна |
| **24.** Накіраванне Цэнтральнай камісіяй у друк паведамлення аб выніках выбараў па рэспубліцы і спіса выбраных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (артыкул 54 закона) | Не пазней чым у сямідзённы тэрмін з дня ўстанаўлення Цэнтральнай камісіяй вынікаў першага тура выбараў |
| **25.** Правядзенне ў выбарчай акрузе другога тура галасавання па двух кандыдатах у дэпутаты, якія атрымалі ў першым туры выбараў найбольшую колькасць галасоў (калі ні адзін з кандыдатаў у дэпутаты не быў выбраны ў першым туры — артыкул 56 закона) | Не пазней чым у двухтыднёвы тэрмін пасля першага тура выбараў |
| Акруговая выбарчая камісія неадкладна паведамляе Цэнтральнай камісіі аб назначэнні другога тура галасавання і інфармуе аб гэтым выбаршчыкаў акругі | |

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### НА ШЛЯХУ ЧАЧНІ ДА МІРУ СТАЛІ ПРАБЛЕМЫ ЎЛАДЫ Ў РАСІІ

У Грозным працягвае дзейнічаць загад камандуючага расійскай групоўкі ў Чачні Палякоўскага і начальніка штаба сіл чачэнскага супраціўлення Масхадава аб спыненні агню. Час ад часу ў горадзе ўспыхваюць перастрэлкі. Учора раніцай адбыліся сутыкненні ў паўднёва-заходніх прыгарадах сталіцы Чачні. Асобныя сутыкненні адбываюцца ў Бамуце, Шалі, Аргуне і Урус-Мартане.

Аляксандр Лебедзь лічыць, што вайну ў Чачні трэба спыніць на любых умовах. У інтэрв'ю тэлебачанню ён заявіў, што жабрацкая краіна не можа весці вайну. У пятніцу Лебедзь ва ультыматыўнай форме запатрабаваў адстаўкі міністра ўнутраных спраў Кулікова, на якога сакратар Савета бяспекі ўсклаў віну за працяг вайны ў Чачні. Нагадаем пра тое, што, па словах генерала Лебедзя, напярэдадні прадастаўлення яму дадатковых паўнамоцтваў для ўрэгулявання канфлікту ў Чачні, Кулікоў даў зразумець, што не мае намеру падпарадкоўвацца сакратару Савета бяспекі.

### ВЫЗВАЛЕННЯ НЕ ДАЧАКАЛІСЯ І... УЦЯКЛІ.

Усе сем расійскіх лётчыкаў, якія ўцяклі з афганскага палону, пасля кароткачасовага прыпынку ў Маскве ў нядзелю вярнуліся ў Казань, дзе іх сустракалі як герояў. Лётчыкаў больш года ўтрымлівалі баевікі апазіцыйнага афганскага руху «Талібан» у горадзе Кандагар. Ім удалося ўцячы ў пятніцу вечарам. Пілоты запэўнілі талібаў, што для праверкі тэхнічнага стану іх самалёта неабходна прысутнасць усіх членаў экіпажа. Ім удалося абяззброіць трох ахоўнікаў, якія знаходзіліся разам з імі ў самалёце, узняць самалёт у паветра і ўзяць курс на сталіцу Арабскіх Эміратаў. Па словах членаў экіпажа, дэталі ўцёкаў распрацоўваліся імі амаль паўгода. На прэс-канферэнцыі яны заявілі, што спецслужбы не маюць дачынення да іх вызвалення.

### ЕЛЬЦЫНА ЧАКАЕ АПЕРАЦЫЯ НА СЭРЦЫ?

Барыс Ельцын знаходзіцца ў Падмаскоўі і праходзіць планавае дыспансернае абследаванне перад адпачынкам. Прэссакратар прэзідэнта Расіі Ястржэмбскі не сказаў, дзе Ельцын збіраецца правесці адпачынак, зазначыўшы толькі, што ён не плануе паездкі за мяжу. Заява была зроблена ў адказ на паведамленне, якое з'явілася ў амерыканскім часопісе «Тайм» наконт таго, быццам прэзідэнту Расіі будзе зроблена аперацыя на сэрцы ў адной з клінік у Швейцарыі.

## Прэс-канферэнцыя

# ПРАДСТАЎНІКІ РАБОЧАЙ ГРУПЫ ЛІЧАЦЬ, ШТО ПРАЕКТ НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫІ БУДЗЕ АДПАВЯДАЦЬ ЗАХОДНІМ СТАНДАРТАМ

**Цяперашняя Канстытуцыя Беларусі парушае баланс паміж рознымі галінамі ўлады — такую думку выказалі ўчора на сустрэчы з журналістамі члены Кансультацыйнага савета пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, дактары юрыдычных навук Віктар Шабайлаў і Анатоль Ціавенка.**

Па словах юрыстаў (якія, дарэчы, уваходзяць у рабочую групу па распрацоўцы праекта новай Канстытуцыі), сёння ў сістэме дзяржаўнай улады на Беларусі пануючая роля належыць заканадаўчай галіне. У якасці аргументаў былі прыведзены прыклады, калі парламент умешваўся ў кіраванне дзяржуласнасцю, а таксама вядомая прававая норма: Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны суд, што абіраецца тым самым Вярхоўным Саветам, могуць блакіраваць любое рашэнне Прэзідэнта. Адпаведна, рэальнага раўнапраўя галін улады ў краіне няма. Праект новай Канстытуцыі, які ўжо распрацаваны і неўзабаве з'явіцца ў друку, перш-наперш скіраваны на тое, каб аднавіць парытэт. Сярод іншага прапануецца, што кіраўнік дзяржавы па пэўнаму колу пытанняў атрымае магчымасць прымаць нарматыўныя акты, аднолькавыя па сіле з законам, што састаў Канстытуцыйнага суда пароўну будзе фарміравацца парламентам і Прэзідэнтам і што, урэшце, сам парламент стане двухпалатным.

Як вядома, праект новай Канстытуцыі Прэзідэнт плануе вынесці на ўсенароднае абмеркаванне. Зрэшты, як заўважыў А. Цітавенка, размова, хутчэй за ўсё, ідзе не аб новай Канстытуцыі ўвогуле, а аб новай рэдакцыі асобных яе раздзелаў. Было заяўлена, што змены павінны прывесці Асноўны закон Беларусі да заходніх стандартаў, пры гэтым іх узорам была названа Канстытуцыя Францыі.

**Сяргей ГРЫБ.**

## Віктар ГАРДЗЕЙ:

# «ШЧАСЦЕ МЕРАЮ ГОРКАЮ ЧАШАЙ...»

***Вядомаму паэту, празаіку Віктару ГАРДЗЕЮ — пяцьдзесят. Паўвека. Пра творчасць і жыццё і ідзе гутарка нашага карэспандэнта з руплівым, актыўным у літаратуры пісьменнікам.***



**— За плячыма — паўвека, ладны стос выдадзеных кніг. Відаць, прыйшло і разуменне, што ж галоўнае ў гэтым жыцці — сказанае слова, напісаныя і выдадзеныя кнігі, альбо радасць некім іншым адкрытага, прачытанага чужога?**

— Аднойчы дужа паважаны мною Іван Чыгрынаў са скрухай зазначыў, што яму бывае смешна, калі інтэрв'ю пачынаюць даваць дваццацігадовыя. Гэты небяспечны ўзрост славалюбства і татальнага адмаўлення ўсяго, што стварылі папярэднікі, дзякуй Богу, я прайшоў даўным-даўно і цяпер, зведаўшы нямала бедаў і ліха ў жыцці, здаецца, маю права адказаць на вашы пытанні.

Так. За плячыма — паўвека. Больш красамоўныя колішнія газетчыкі сказалі б трошкі інакш: сонца ў зеніце. Няхай сабе і ў зеніце, ды цяпла чамусьці мала. І стос кніг, пра які вы кажаце, не дужа і ладны — усяго пятнаццаць, а шэсць маіх паэтычных зборнікаў лёгка ўмяшчаюцца ў адным томе якога-небудзь пладавітага аўтара. Напэўна, тут усё ж былі і нейкія «супраціўленчыя» якасці характару. Напрыклад, ледзь не з дзіцячых гадоў я лічыўся непакорлівым чалавекам, за што пазней меў багата непрыемнасцей. Аднак не крывіў душой, нікому не сказаў падхалімнага слова, хаця многіх творцаў шчыра паважаў і паважаю за іх талент. Жорсткі рэаліст, я ніколі не жыў у свеце ілюзій, не цешыў сябе прывіднымі надзеямі і таму цалкам задаволены тым, што ёсць, што зрабіў і што яшчэ, магчыма, ляжа на чыстыя аркушы паперы.

Сказанае слова для мяне, вядома ж, — галоўнае ў гэтым жыцці. Дзеля слова існую і працую. Калі б было неяк інакш, тады ці варта ўвогуле турбаваць сваю Музу? Чужая Муза, яна ж таксама здатная яшчэ на цікавыя адкрыцці і плённыя пошукі. Асабліва маладая паэзія, маладая проза. Вунь, толькі колькасць кніг, выдадзеных у «Бібліятэцы часопіса «Маладосць», падбіраецца да ста. І прыток свежых літаратурных сіл не расцягваецца на месяцы і гады. Напэўна, ёсць нейкая заканамернасць: калі ў грамадстве неразбярыха, смута, тады ўсе хапаюцца за пяро. Так было ў пачатку веку, так яно і цяпер, на яго фінішы. Мяркую, што на самай вяршыні беларускай паэтычнай піраміды, побач са славутай трыядай класікаў, быў і застаецца Паўлюк Трус.

**— Калі б раптам пачаць усё спачатку — прабачце за такую трывіяльнасць — ці пайшлі б у літаратуру ізноў?**

— Страта ранейшых ідэалаў застала мяне знянацку, хаця гуманізму і дабраце месца ёсць на працягу ўсёй чалавечай гісторыі. Я з цікавасцю назіраю, як тлусцеюць нядаўнія барацьбіты за шчасце народнае, і з жахам думаю, што гэтым «новым беларусам» не да кніг, не да матчынай мовы і культуры. Бізнесменам я не стаў бы, бо змалку не навучыўся ашуканству, ды і ўзрост не той, каб пачынаць спачатку, але ў выпадку чаго, у літаратуру ўсё-такі вярнуўся б — не ў якасці паэта і празаіка, а ў якасці кнігавыдаўца. Стварыў бы абсалютна нацыянальнае выдавецтва і друкаваў бы таленавітыя беларускія кнігі на таннай паперы, невялікага кошту, каб іх мог купіць нават апошні бядняк. Напэўна, славутым Сыціным я не зрабіўся б, аднак сякая-такая карысць была б. Разбагацеўшы (накшталт Сораса), даў бы заслужаныя гранты Міколу Купрэеву, Міколу Федзюковічу і многім іншым малапрабіўным літаратарам.

**— Калі не памыляюся, адна з вашых кніг называецца «Засевак Радзімы». Сёння слова «радзіма» пішацца з малой літары. Ці не падаецца вам, што зашмат дэкларацый, ура - патрыятызму было ў ранейшай літаратуры, у вашай асабіста творчасці?**

— Добрае гэта слова — «засевак». Яшчэ лепшае — «Радзіма». Пісаць яго трэба з вялікай літары. Дзе з малой — там хутчэй за ўсё неахайнасць карэктараў і асабістая непатрабавальнасць аўтараў, якія разгубіліся перад развалам Савецкага Саюза. Але ж Радзімы мы не губляем. Яна ў нас ёсць — прыгожая, блакітнавокая. Радзіма наша — Беларусь. Як жа яе напісаць з малой літары?

Наконт дэкларацый і ўра-патрыятызму, то чаму ж — усяго хапала. Я, напрыклад, да сённяшняга часу памятаю кнігі Ажаева «Далёка ад Масквы», Кятлінскай «Мужнасць», Бубяннога «Белая бяроза», сотні іншых аўтараў савецкага перыяду, аднак лаўлю сябе на думцы, што іменна гэтыя «ўра-патрыятычныя» кнігі выхавалі мяне сумленным чалавекам, не далі развіцца ў душы хцівасці і нянавісці. Яркі вам прыклад: у сваім дзяцінстве я нават не чуў, каб сын згвалтаваў маці, каб сусед абрабаваў суседа. Цяпер жа гэта звычайная з'ява — выпусціць кішкі сябру, «кроватачывы» Чэйз усё-такі горш за наіўнага Бубяннога, які акрамя «Белай бярозы» напісаў яшчэ і цудоўны патрыятычны раман «Быстрыня».

Зразумела, павевы таго часу, закаранелыя ідэалагічныя ўстаноўкі ніякім чынам не маглі абмінуць маю асабістую творчасць. Ад нас, маладых, выдаўцы проста гвалтам патрабавалі так званых грамадзянскіх твораў. На шчасце, я, мабыць, адпеты лірык, і таму дэкларацый у мяне не дужа шмат — набярэцца вершаў дваццаць, калі не менш, а ў прозе і наогул ура-патрыятызм адсутнічае цалкам. Адзін крытык у свой час нават папракаў, што ў аповесці «Дом з блакітнымі аканіцамі» слабаваты сацыяльны фон, разумеючы пад ім усё тую ж накіроўваючую ролю мясцовага партыйнага кіраўніцтва.

**— Доўгія гады (два дзесяцігоддзі без аднаго года) вы аддалі працы ў раённай газеце. Ці не шкадуеце аб гэтым? Маўляў, марна патрачаны час...**

— Шкадаваць часу, патрачанага ў раённай газеце, мне няма прычыны. Усе гэтыя «два дзесяцігоддзі без аднаго года» я працаваў побач з таленавітым нарысістам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Лепяшынскага Васілём Праскуравым, якому, дарэчы, 25 жніўня споўнілася б 70 гадоў. Што тут казаць, школу пры ім прайшоў выдатную — і жыццёвую, і літаратурную. Ды і «раёнкі» бываюць розныя. Тая ж ганцавіцкая газета «Савецкае Палессе» акрамя мяне выхоўвала Міхала Дубянецкага, Міхася Рудкоўскага, Івана Кірэйчыка, Міколу Купрэева, Алеся Каско, Уладзіміра Марука. Грэх, выходзіць, скардзіцца.

**— Калі меркаваць па ўзросту, то вы — з пакалення Сяргея Законнікава, Алеся Жука, Генрыха Далідовіча, Валянціны Каўтун, Уладзіміра Някляева... Ці не падаецца вам, што ў гэтага пакалення — вашага пакалення — не тая вядомасць, як у папярэднікаў? У чым ці ў кім прычына — няўжо ў адным толькі чытачу?**

— І ў чытачу таксама. Нядаўна быў у сваіх Ганцавічах, заходзіў у кнігарню. Жах — ніводнай беларускай кнігі! Пра якую тады вядомасць можна гаварыць? У нас жа на руках заўсёды былі паэтычныя зборнікі і Максіма Танка, і Аркадзя Куляшова, і Пімена Панчанкі. Зноў-такі пакаленне Сяргея Законнікава больш прагматычнае і не прымае на веру надта ўсцешныя словы пра сваю выключнасць ці таленавітасць. Калі ж сур'ёзна гаварыць пра папярэднікаў, то і ў гэтым пакаленні толькі асобныя творцы, як, напрыклад, Ніл Гілевіч з яго «Роднымі дзецьмі» маюць сапраўды народную вядомасць.

**— Тры дзесяцігоддзі назад вы надрукавалі ў «Чырвонай змене» верш з такой назвай: «Шчасце мераю тою чашай...» Якой чашай мераеце шчасце вы сёння? Ці ёсць яно — шчасце?**

— Відавочна, ёсць. Але ў кожнага чалавека яно рознае — як каму напісана на раду. Я ж сваё асабістае шчасце мераю горкаю чашай, з юнацтва памятаючы радок Максіма Рыльскага: «У шчасця ёсць два розныя крылы — прыемнае з карысным, а Біл Клінтан, вось дзе, мабыць, шчаслівы чалавек! Ён і дзяржавай кіруе самай магутнай у свеце, і на працу яго возяць, і на самалётах ён лятае куды захоча. А мы з Білам Клінтанам нарадзіліся ў адзін дзень — 19 жніўня 1946 года. Думаю, што не будзе нічога кепскага, калі я, карыстаючыся выпадкам, праз газету «Звязда» павіншую свайго заакіянскага равесніка з 50-гадовым юбілеем і пажадаю яму ўдачы на будучых прэзідэнцкіх выбарах. Дарэчы, у мяне лёгкая рука: чаго хачу, тое і спаўняецца. І наогул, 19 жніўня — яблычны Спас, дык няхай у нашым жыццёвым садзе заўсёды спеюць сакавітыя, крамяныя яблыкі!

**— З юбілеем, Віктар! Новых кніг, шчасця, здароўя, спелых яблыкаў!**

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 20 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

**10.10** Тураб'ектыў. **10.30** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». Тэлесерыял. **11.25** «Сусвет». Навукова-папулярны часопіс. **12.15** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма. **12.45** «Вязень замка Іф». Маст. фільм (СССР—Францыя). Фільм 1-ы. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял. **15.40** «Ірына Оціева». Фільм-канцэрт. **16.05** Беларускі мерыдыян. Ільняны шлях. **16.35** Канцэртны сезон. Папулярныя класічныя творы ў выкананні зорак сусветнага і айчыннага мастацтва. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Тайны старажытных пячор». Дак. фільм. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па адным». Музычная передача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Вертыкаль. Улада і адказнасць. Інтэрв'ю старшыні Магілёўскага аблвыканкома А. М. Кулічкова. **19.30** Футбол. Кубак УЕФА. «Дынама-93» (Мінск)— «Хельсінгборг» (Швецыя). У перапынку **(20.15)** — Калыханка. **21.20** Панарама. **22.05** Хроніка жніва-96. **22.25** «Зоркі» на экране. Маст. фільм «Палтэргейст-90». **23.50** «Чалавек у рамцы». Мультфільм для дарослых. **24.00** Навіны.

### ГРТ

**10.20** «Кутх і мышы». Мультфільм. **10.30** «Адгадай мелодыю». **11.00** Навіны (з сурдаперакладам). **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.55** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял. **12.45** «Аляксей Глазырын. Каб памяталі...» Аўтарская праграма Л. Філатава. **13.30** Каханне з першага погляду. **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца». **14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.55** Мульцітролія. **15.10** Чароўны свет, ці Сінема. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.00** «Тэма». **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Святлана Кручкова і Алег Барысаў у камедыі «Жаніцьба». **22.35** Навіны. **22.45** «Брава, маэстра!» Канцэрт Вячаслава Дабрыніна.

### Канал «Расія»

**16.00, 19.00, 22.30, 23.40** Весткі. **16.20** Музыка ўсіх пакаленняў. **16.35** Залежыць ад цябе. **16.50** «Чэленджэрс». Серыял. **17.20** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.30** Спяваюць драматычныя артысты. **18.00** Нічога, акрамя... **18.15** Момант ісціны. **19.35** «Санта-Барбара». **20.30** «Гарадок». Забаўляльная праграма. **21.00** Надвор'е. **21.05** Футбол. «Спартак» (Масква)—«Краацыя» (Загрэб). **23.30** Навінкі ад «ТБ-медыя». **23.50** «Японскі дзённік». Частка 2-я.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 12.55, 13.55, 15.00, 16.55, 18.55, 22.00** Інфарм ТБ. **12.05** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Тэрмін адказу — сёння. **13.40** Парады садаводам. **14.05** «Камо грядеши». 2-я серыя. **15.10** «Нікало Паганіні». 2-я серыя. **16.15** «Рытм, рытм, рытм». Фільм-канцэрт. **16.40** Тэлеслужба бяспекі. «Па-за законам». **17.05** «Філасофія па Філу». Серыял. **17.25** Стыль жыцця. **17.30** «Цікаўнае сланяня». Мультсерыял. **17.40** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** «Пецярбургскі акорд». Фільм, прысвечаны І Міжнароднаму фестывалю аўтарскай песні. **20.40** Тэлеслужба бяспекі, **20.50** Спартыўны агляд. **21.00** «Камо грядеши». 2-я серыя. **22.15** «Нікало Паганіні». 2-я серыя.

### НТБ

**9.10** Дак. фільм «Загадкі Бібліі». **9.30** Маст. фільм «Дачка пасла ЗША». **11.15** Маст. фільм «Маэстра з нітачкай». **12.45** Мультфільм. **13.20** Гадзіна серыяла. «Дом жахаў Хамера». 4-я серыя. «Адзначаны сатаной» (ЗША).

### «Расійскія універсітэты»

**15.00** Мы жывём у Гжэлі. **15.30** Гаспадар цьмы і свету. Л. Андрэеў. **16.00** Музычныя навіны. **16.10** «Рок лёсу». Элвіс Прэслі. **16.45** Навіны.

### НТБ

**17.00** Дак. фільм «Дзікая прырода: барацьба за жыццё». **17.30** Жаночыя гісторыі. «Зачараваная Зоі». 3-я серыя. **18.00, 21.00, 23.00** Сёння. **18.35** Дак. фільм «Жанчыны ў падполлі» серыяла «Шпіёны» (ЗША). **19.00** М. Макдауэл у фільме «Шалёная поўня» (Вялікабрытанія). **21.35** «Дом жахаў Хамера». 5-я серыя «Кроватачывы дом» (ЗША). **22.30** Чясінка. **23.20** Вялікі рынг. **23.50** Меламанія: «Брус Спрынгсцін».

МАЙСТРЫ

# УРОКІ ЛЮДМІЛЫ АКАВІТАЙ

...БЫЦЦАМ НЕЙКІ ЧОРЦІК вырашыў крыху паблазнаваць, — села плесці кошык саламяны, дайшла да сярэдзіны, а на яе мордачка баранчыка паглядае. Папрасіла сяброўка зрабіць каралі — спляла 2-3 ракушкі а з наступнай «праклюнулася» мордачка кароўкі... А там і зусім нейкі сверб напаў, і пачалі з'яўляцца на свет боскі сімпатычныя жавёліны. Адну такую чароўную палачку — бычка і яго сяброўку з доўгімі-доўгімі вейкамі давялося мне ўбачыць на адной з выстаў Саюза майстроў народнай творчасці ў Нацыянальным музеі культуры і гісторыі. Саломка, як заўсёды, была прадстаўлена даволі багата, бо ў адным толькі Мінску цяпер некалькі дзесяткаў майстроў саломапляцення. Нават склаліся свае школы: Таісіі Агафоненка, Лідзіі Главацкай, Ніны Кузняцовай, Веры Салдатавай... Адным словам, было чым пазахапляцца.

І ўсё ж нечым прываблівалі «жывёлінкі» Людмілы Акавітай. Ці не тым, што былі яны мілымі, безабароннымі, быццам з нейкай добрай казкі. І зрабіць-нарадзіць іх, безумоўна, мог толькі вельмі добры і шчыры чалавек, для якога дзверы ў дзяцінства з гадамі не зачыніліся канчаткова. З такімі дарослымі вельмі добра дзецям, а ім самім — з дзецьмі. Магчыма таму, перакваліфікаваўшыся з настаўніцы фізікі ў майстра па саломапляценню, Людміла Акавітая так канчаткова і не парвала са школай.

... Да столі падвешаны «павукі», на сценах пано, інкруставаныя саломкай, на палічках розныя сімпатычныя фігуркі — так выглядае невялікі «саламяны» кабінет Акавітай у СШ №145 з мастацкім ухілам. Маю ўвагу прыцягвае арыгінальная саламяная лялька — аўтар апрануў яе ў спадніцу з сапраўдных каласкоў, а касу залатую выклаў у мудрагелістую прычоску. З цяжкасцю верыцца, што аўтар гэтай лялькі — хлопчык. Цяпер ён у дзевятым класе займаецца і не да саломы яму, але ж раз-пораз усё ж заглядвае сюды. А Людміла раптам прызнаецца:



— Іншы раз адчуваю, што я даю ім менш, чым яны мне. У іх столькі фантазіі, смеласці — чык-чык і гатова. Ногі кароткімі ў гэтай авечкі атрымаліся, не прапарцыянальныя тулаву, але што з таго...

Яна бярэ з паліцы дзвюх авечак і паказвае мне:

— Ну вось мая і хлапечая. Ці яго горшая за маю?! У ёй жа характар ёсць! І так у кожнай дзіцячай рабоце. У кагосьці з майстроў бывае такая вытанчаная тэхніка, а характару няма.

І раптам пытаецца ў мяне:

— Вы даўно смяяліся проста так, без ніякай прычыны? Я развучылася, а цяпер зноў гэтаму навучылася ў дзяцей.

А яшчэ Людміла Акавітая з радасцю едзе на работу (дарэчы з аднаго канца Мінска ў другі) і з такім жа лёгкім сэрцам і настроем вяртаецца дамоў. Толькі адзін дзень у яе чорны — дзень зарплаты. Праўда, муж, жартуючы, заспакойвае яе: «Ты хочаш, каб за хобі... за асалоду табе яшчэ і добра плацілі?..» Так, асалода ёсць, няма толькі хобі, бо тое, што яна робіць, значыць для яе вельмі шмат.

— Я не пайду на мітынг крычаць за беларускую культуру, нацыянальнае адраджэнне, — прызнаецца Людміла. — Бо перакanaна ў тым, што крыкам справа не вельмі з месца зрушыцца. Мне хочацца, каб дзеці не проста навучыліся саломапляценню, але праз гэта далучыліся да традыцыйнай культуры, адчулі свае карані. І шкадуе яна, што выкладчыкі іншых «мастацкіх» дысцыплін у школе працуюць адасоблена, што няма нейкай дакладна распрацаванай сістэмы, агульных формаў, метадаў. І марыць аб стварэнні ліцэя народных рамёстваў, бо ёсць для яго педагогі, майстры самабытныя.

І прызнаецца:

— У такі ліцэй я з задавальненнем аддала б свайго сына. Я думаю, што там бы мову родную на адпаведным узроўні выкладалі, знаёмілі б з багаццямі беларускай культуры і гісторыі.

Саша вучыўся ў беларускім класе, а цяпер зноў той клас рускамоўным зрабілі. Гэтае хістанне туды-сюды... Няўжо ніхто не разумее, як гэта на дзецях адбіваецца? Няўжо не разумеюць тыя, хто гэтыя хістанні наладжвае, што сваю самабытнасць як нацыі мы можам захаваць толькі праз мову родную і культуру?.. Можа, нічога дзіўнага і няма ў тым, што Людміла Акавітая, якая нарадзілася ў Хабараўску, у сям'і ваеннаслужачага, і якая на радзіму бацькоў (абое яны беларусы) прыехала дзевяцікласніцай, мае такія трывалыя нацыянальныя арыенціры. Штосьці дала ў гэтым плане сям'я. Паспрыяў гэтаму і час наш, які вымагае задумвацца над многімі пытаннямі быцця. А таксама сустрэчы з такімі людзьмі, як майстар саломапляцення Ніна Міхайлаўна Кузняцова, мастацтвазнаўца Вольга Аляксандраўна Лабачэўская, якія выкладалі на курсах цэнтра культуры і этнаграфіі «Белая дача».

І цяпер ужо Людміла Акавітая аддае сваім вучням тое, што прыдбала — на занятках у «саламяным» кабінеце, за чаем з нагоды Каляд, Вялікадня і іншых традыцыйных народных святаў спасцігнуць яны першыя ісціны, высновы самабытнасці нашай. І дай ім Божа, каб і надалей шанцавала ім на настаўнікаў такіх.

**Маргарыта СТАРЫХ.**

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4583.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12